Гродна
№ 8 (419),
19 красавіка 2015

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# XXII ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫЯ ДНІ МОЛАДЗІ




## ЗАПРАШЭННЕ МОЛАДЗІ ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ НА ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫЯ ДНІ МОЛАДЗІ

*1–3 мая ў г. Смаргонь*

**Дарагая Моладзь! Вучні школ і каледжаў, Студэнты ВНУ!**

**Запрашаю Вас 1–3 мая бягучага года на XXII Дыяцэзіяльныя дні моладзі нашай дыяцэзіі. У гэтым годзе Вас будуць прымаць і вітаць жыхары г. Смаргонь. Сама сустрэча адбудзецца пры парафіі св. Міхала Арханёла.**

**Заклікаю Вас прыняць удзел у сёлетніх Дыяцэзіяльных днях моладзі, якія будуць прысвечаны словам блаславулення Езуса: "Шчаслівыя чыстыя сэрцам, бо яны Бога ўбачаць" (Мц 5, 8). Няхай гэта будзе для Вас час супольнай радасці ў Хрысце і адкрыцця ў сабе дару чыстага сэрца.**

*Падрабязную інфармацыю наконт удзелу можна будзе даведацца ў сваіх ксяндзоў пробашчаў і душпастараў моладзі.*

***На плённую падрыхтоўку і ўдзел у сустрэчы ўсім ад усяго сэрца благаслаўляю.***

*Аляксандр Кашкевіч*
*Біскуп Гродзенскі*

• Інфармацыя пра ДДМ на **с. 4**

## Каляндар падзей

***23 красавіка***
*успамін св. Юрыя, дзень імянін папы Францішка. Молімся за Наступніка св. апостала Пятра.*

***25 красавіка***
*свята св. евангеліста Марка.*

***26 красавіка***
*Нядзеля Добрага Пастыра. Тыдзень малітвы аб пакліканні да службы Божай у Касцёле. 29-я гадавіна ядзернай катастрофы ў Чарнобылі. Молімся за ахвяр трагедыі.*

***29 красавіка***
*свята св. Кацярыны Сіенскай, заступніцы Еўропы.*

***1 мая***
*распачацце маёвага набажэнства. Заахвочваем да малітвы Ларэтанскай літаніяй. У гэты дзень молімся за людзей працы.*

***3 мая***
*дзень імянін кс. б-па Аляксандра Кашкевіча. Дзякуем Богу дастойнага Імянінніка. У дыяцэзіі Дзень маці. Молімся ў інтэнцыі жывых і памерлых мам.*

## Запрашаем!

***"Сімвал веры"***
*Каталіцкая праграма аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі выйдзе на тэлеканале Беларусь-2"*
***27 красавіка***
***ў панядзелак у 18.05***
*пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання.*

## Аб'ява

***Рэдакцыя газеты "Слова Жыцця"***
*шукае спецыяліста з веданнем беларускай і польскай моў на пасаду перакладчыка.*
***Звяртацца***
***да 3 мая бягучага года***
*па тэлефонах:*
***(0152)75-64-38***
*або* ***(8029)280-24-62.***

## Інтэрнэт-апытанне
**www.grodnensis.by**

***Ці размаўляеце Вы на працы** (вучобе) **на рэлігійныя і касцёльныя тэмы?***

- *так*
- *не*
- *цяжка сказаць*

**Выкажыся**



**„Пан заклікае нас да евангелічнага жыцця" – папа Францішак**




## III ВЕЛІКОДНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Лк 24, 35–48**

Вучні Езуса расказалі пра тое, што здарылася ў дарозе, і як яны пазналі Езуса ў ламанні хлеба. Калі яны казалі пра гэта, сам Езус стаў сярод іх і сказаў: “Супакой вам”.

Устрывожаныя і напалоханыя яны думалі, што бачаць духа. Але Ён сказаў ім: “Чаму засмуціліся, і чаму сумненні ўзнiклі ў вашых сэрцах? Паглядзіце на Мае рукі і ногі: гэта Я. Дакраніцеся да Мяне і пераканайцеся: бо дух не мае цела і касцей; як бачыце, Я іх маю”. Пасля гэтых слоў Ён паказаў ім рукі і ногі.

А калі яны ад радасці яшчэ не верылі і дзівіліся, Ён сказаў ім: “Ці маеце тут што з’есці?” Яны падалі Яму кавалак печанай рыбы. Ён узяў і еў перад імі.

І сказаў ім: “Гэта словы мае, сказаныя вам, калі Я быў яшчэ з вамі, што павінна збыцца ўсё напісанае пра Мяне ў законе Майсея і ў прароках, і ў псальмах”. Тады асвяціў іх розум, каб яны разумелі Пісанне.

І сказаў ім: “Так напісана, што Месія павінен цярпець і ўваскрэснуць на трэці дзень з мёртвых, і ў Ягонае імя павінна абвяшчацца пакаянне дзеля адпушчэння грахоў усім народам, пачынаючы ад Ерузалема. А вы – сведкі гэтага”.

## ДАР РАДАСЦІ

Св. Лука запісаў, што Апосталы, бачачы ўваскрослага Езуса, “ад радасці не верылі”. Нявер’е звычайна з’яўляецца вынікам чалавечай пыхі, недахопу дастатковых рэлігійных ведаў, часта нейкай трагедыі і прэтэнзій, прад’яўляемых Богу. Але каб радасць?.. Аднак Евангелле яснае: шчасце Апосталаў было настолькі вялікім, што яны не верылі сваім вачам. Езус знаходзіць спосаб, каб “спусціць іх на зямлю”, і просіць даць што-небудзь з’есці. А калі Апосталы трохі супакоіліся, Ён яшчэ раз тлумачыць Божы план збаўлення. І прыгадвае сваім вучням: “Вы з’яўляецеся сведкамі гэтага”. Трэба прасіць Хрыста аб маленькай часцінцы такога нявер’я, прычынай якога было б бязмежнае здзіўленне цуду ўваскрасення. А вынікам – радаснае сведчанне аб ім!

## IV ВЕЛІКОДНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Ян 10, 11–18**

Езус сказаў: “Я – добры пастыр. Добры пастыр аддае жыццё сваё за авечак. А найміт і не пастыр, якому не належаць авечкі, калі бачыць, што прыходзіць воўк, кідае авечак і ўцякае, а воўк хапае і разганяе іх. Уцякае, бо ён найміт і не клапоціцца пра авечак.

Я – добры пастыр і ведаю сваіх, а Мае ведаюць Мяне, як Мяне ведае Айцец і Я ведаю Айца. І жыццё сваё аддаю за авечак. Ёсць у Мяне і іншыя авечкі, якія не з гэтага двара. І гэтых Мне трэба прывесці, і яны будуць слухаць голас Мой, і будзе адзін статак і адзін пастыр.

За тое любіць Мяне Айцец, што Я аддаю жыццё сваё, каб узяць яго зноў. Ніхто не адбірае яго ў Мяне, але Я сам аддаю яго. Я маю ўладу яго аддаць і маю ўладу зноў узяць яго. Такую запаведзь Я атрымаў ад Айца Майго”.

## ЕВАНГЕЛЛЕ Ў ПІЛЮЛІ

У гэтым Евангеллі важны кожны сказ, нібы кожнае слова мае свой цяжар. Найбольш важкія тут: пастыр, авечкі, Айцец. А адносіны паміж імі вызначаюць словы: ведаць і весці авечак, аддаваць за іх жыццё, быць любімым Айцом. Гэта тыя некалькі слоў, некалькі паняццяў, якія вызначаюць самы глыбокі сэнс сувязі Бога са сваім стварэннем. Добры Пастыр ахоўвае жыццё сваіх авечак, гатовы аддаць за іх сваё жыццё. Ён дзеліцца з намі сваім жыццём! У гэтай гатоўнасці да ахвяры крыецца таямніца любові і незнішчальнасці Божага жыцця.

Евангелле не было б Добрай Навінай без практычнай перасцярогі: сцеражыся воўка, які нішчыць жыццё, і асцерагайся таго, хто не можа гарантаваць табе бяспеку, бо не гатовы прысвяціць сваё жыццё і не мае ўлады над існаваннем. Для найміта важны толькі асабісты інтарэс.

Евангелле – гэта навука любові Езуса і ўказанне на сапраўднае шчаслівае жыццё. Давайце паспрабуем зразумець яго і навучымся ім карыстацца!

*Кс. Яраслаў Грынашкевіч*

# Вера ва Уваскрасенне

**СЛОВА РЭДАКТАРА**
*Кс. Павел Салабуда*

Кожны крок набліжае мяне да Бога. Вера – найбольшы патэнцыял, якім валодае чалавек. Гэта менавіта яна ўказвае чалавеку напрамак, у якім ён павінен ісці. Вера – гэта дар, які трэба прыняць. Мы ўсе запрошаны Езусам вырушыць у напрамку нашай духоўнай Галілеі. У нас ёсць уласная Галілея, дзе мы сустракаемся з уваскрослым Езусам. Бог нікога з нас не прымушае верыць у Яго і ісці за Ім. Мы маем вольную волю і можам служыць Богу ў любові і свабодзе. Акрамя гэтага, крочанне за Хрыстом заўсёды звязана з выбарам праўды. Гэтая праўда дае нам упэўненасць, што нашае жыццё прынясе добры плён. Перш чым мы дасягнём неба, мы павінны тут, на зямлі, пастаянна выбіраць паміж верай і спакусай нявер’я, паміж дабром і злом, паміж духоўным і цялесным.

Вера таксама мае супольнасны характар. Мы не адзінокія. У духоўную вандроўку на сустрэчу з Хрыстом мы бяром з сабой сваіх блізкіх і ўсіх, каго Бог ставіць на нашым шляху. Сустракаючы Езуса, мы заўсёды запрошаны дзяліцца гэтым досведам з іншымі людзьмі. Гэта можа выражацца ў словах, але перш за ўсё – ва ўчынках. Сёння мы павінны старацца здзяйсняць як мага больш дабра, не чакаючы нічога ўзамен. Так, нібы гэта робіць сам Езус для тых, хто ў патрэбе.

Вера ва Уваскрасенне дапамагае нам у чарговы раз зразумець, што зямное жыццё – гэта яшчэ не канец. Варта тут, на зямлі, рабіць як мага больш добрага, каб чалавек, які гэтага не разумее, прымаючы добры жэст ад нас, адчуў, колькі дабра можа даць уваскрослы Хрыстос. Сустракаючыся з Ім, мы заўсёды маем гарантыю духоўнага ўсынаўлення нашага жыцця.

Для многіх жыццё становіцца сталым пошукам Езуса, бо пасланнік Божы звяртаецца таксама да нас: “Шукаеце Езуса Назараніна, укрыжаванага. Ён уваскрос, Яго тут няма” (Мк 16, 6). Шуканне Уваскрослага асабліва ўзмацняецца ў хвіліны цяжкія і балючыя, па-людску нават безнадзейныя. Я ведаю многіх людзей, якія былі рэлігійна абыякавымі, а ў канцы жыцця працягвалі рукі Богу і, больш таго, былі вельмі шчаслівыя, што знайшлі Яго. Адзіным месцам, дзе можна знайсці Уваскрослага, з’яўляецца вера. Яна праходзіць праверку падчас кожнага нашага жыццёвага выпрабавання. Варта нястомна прасіць у сваіх малітвах: “Пане, павялі у нас веру, веру ў Тваё Уваскрасенне ў хвале. Дапамажы, каб нашая вера заўсёды ўзрастала, каб кожны з нас быў моцны і мог перанесці не адну гару людской безнадзейнасці”.




*Паводле архіва Гродзенскай дыяцэзіі*

*Знешні выгляд парафіяльнай святыні*

У пісьмовых крыніцах паселішча вядома з пачатку XV ст. (хоць на ўездзе стаіць мемарыяльны знак з датай 1287 г.) як Геранёны Мураваныя ці Гаштольдавыя, у адрозненне ад Геранёнаў Манівідавых (цяпер в. Суботнікі) і Геранёнаў Старых (цяпер в. Зыгмунцішкі). Было вялікакняскім уладаннем, потым уласнасцю Гаштольдаў, Пацаў. З 1520 г. – мястэчка Ашмянскага павета, з XVI ст. – цэнтр староства, старостамі якога былі Гедройцы, Сапегі, Мнішкі, Салагубы, Браніцкія. Пры каралю Аўгусце III, каля сярэдзіны XVIII ст., паселішча атрымала Магдэбургскае права, з 1792 г. мела ўласны герб – пранізанае мячом сэрца на зялёным фоне. Да XIX ст. геранёнская парафія ўваходзіла ў склад Радунскага дэканата, затым – Вішнеўскага, у 1921 г. увайшла ў новаўтвораны Беняконскі дэканат, а з 1991 г. знаходзіцца ў складзе Іўеўскага дэканата.

Касцёл пад тытулам св. Мікалая, біскупа, быў заснаваны тут у 1411 г. па фундацыі вялікага князя ВКЛ Жыгімонта Кейстутавіча, якому ў той час належалі Геранёны. Ужо ён пабудаваў касцёл у 1458 г. Першапачаткова святыня была драўлянай, пабудавалі яе ў паўднёва-заходняй частцы вёскі, побач з замкам. Пасля знішчэння святыні ў пажары канцлер ВКЛ і віленскі ваявода Альбрэхт Гаштольд у 1519 г. узвёў ужо мураваны касцёл і заснаваў пры ім альтарыю.

У 1540 г. ужо Войцех Гаштольд атрымаў у Рыме для геранёнскага касцёла статус інфулацкага, інфулатам геранёнскім стаў кс. Стэфан граф Талбжыкоўскі, прэлат віленскі. У тыя часы геранёнская парафія лічылася адной з найбагацейшых у дыяцэзіі, а ў дэканаце больш багатай, чым Іўе і Трабы.

У 1771 г., пасля рэканструкцыі святыні ў стылі барока, яе пад гістарычным тытулам кансэкраваў віленскі біскуп суфраган Тамаш Зяньковіч.

У 1730 г. у Геранёнах была заснавана рэзідэнцыя ордэна піяраў ад віленскага кляштара, пры якой у 1730–1938 гг. дзейнічала школа. Але ў 1756 г. рэзідэнцыя была зачынена намаганнямі езуітаў, якія бачылі ў піярах сваіх канкурэнтаў у галіне адукацыі. Манахі былі пераведзены ў Ліду. У XVIII ст. да геранёнскай парафіі належаў філіяльны касцёл у Дзевянішках (цяпер самастойная парафія ў Літве).

У 1779 г. (гэтая дата, верагодна, недакладная) касцёл быў адноўлены пасля пажару на сродкі пана Яна Пробача. У 1859 г. да апсіды накшталт крылаў трансепта былі дабудаваны сакрыстыя і капліца, у 1883 г. да галоўнага ўвахода дабудавалі прытвор, акрамя гэтага былі рэканструяваны фасады.

Сёння старажытная святыня ўяўляе сабой адносна невялікі прамавугольны ў плане залавы аб’ём з пяцігранный выцягнутай апсідай з дзвюма фланкуючымі яе сакрыстыямі. Усе аб’ёмы накрыты асобнымі двухсхільнымі дахамі, апсіда – вальмавым. Галоўны фасад, фланкаваны контрфорсамі, завершаны высокім раннебарокавым шчытом, таксама шчытамі завершаны тарцы сакрыстый.

● працяг у наступным нумары

# Ці можа каталік верыць у сны?

Касцёл хутчэй неахвотна ставіцца да таго, каб звяртаць увагу на сны. Але нават у Бібліі мы чытаем аб снах, якія паходзяць ад Бога.

Дазвольце мне даць Вам канкрэтны прыклад такога сну. Аднаму чалавеку прысніўся памерлы бацька і загадаў яму адмовіцца ад дрэннага жыцця, пайсці да споведзі і нарэшце пачаць жыць па-хрысціянску. Чалавек глыбока ўзрушыўся ад гэтага паслання, і на самой справе сон стаў паваротным момантам у яго жыцці.

Ці быў гэты сон звышнатуральным умяшаннем у жыццё гэтага чалавека? Асабіста я лічу, што нават калі ён быў выкліканы выключна прыроднымі механізмамі (напрыклад, гэты чалавек насіў у сваёй падсвядомасці глыбокія дакоры сумлення, што жыве не так, як яго выхоўвалі), то ўсё роўна праз яго выявілася таямніца еднасці святых. Напэўна, праз гэты сон чалавека закранула любоў яго бацькі – нават калі гэта адбылося па чыста натуральных прычынах. А для любові дастаткова звычайная з'ява, што часам яна прыносіць свой плён толькі праз шмат гадоў.

У той жа час, я думаю, было б проста ганарлівасцю загадзя выключыць звышнатуральны характар гэтага сну. Бо хто ведае: можа, гэта сапраўды сам Бог дазволіў бацьку нават пасля смерці прыйсці да свайго дзіцяці і аказаць яму такую вялікую карысць.

Пасланне з гэтага сну відавочна згаджалася з праўдай веры, і разам з тым у ім не было ніякіх перабольшванняў у інтэрпрэтацыі ісціны. Але я распавяду Вам яшчэ адзін сон, які таксама ніякім чынам не супярэчыць праўдзе веры, але мае лішнія падказкі адносна таго, як трэба дзейнічаць. Гэты сон здарыўся ў жыцці будучага святога Альберта Вялікага, у той час, калі ён прымаў рашэнне ўступіць у манаскі ордэн.

Альберт захапляўся манаскім жыццём і вельмі хацеў яго распачаць. Аднак, яго стрымліваў страх: ці вытрывае ён на гэтым шляху. Яму прыснілася, што ён стаў манахам і вельмі радаваўся на гэтым шляху, але ўрэшце аказалася, што выбраны шлях быў для яго занадта цяжкім, таму ён быў вымушаны пакінуць ордэн. Прачнуўся Альберт з пачуццём палёгкі, што гэта быў толькі сон, але і з перакананнем, што гэта сам Бог не раіць яму ўступаць у ордэн.

Але на самой справе Бог умяшаўся ў гэтую сітуацыю толькі вечарам таго ж дня. Альберт пайшоў у святыню на набажэнства і на пропаведзі пачуў ні больш ні менш такія словы: "Бывае і так, што нехта вельмі хоча стаць манахам, але яму перашкаджаюць сумненні, ці зможа ён вытрываць на гэтым шляху. І калі такому яшчэ прысніцца, што ён уступіў у ордэн, але затым павінен быў яго пакінуць, ён памылкова ўспрымае гэты сон за голас Божы і проста марнуе сваё пакліканне". Залішне казаць, што гэтая пропаведзь перамагла ўсе сумненні Альберта. Без усялякіх ваганняў ён далучыўся да манаскай супольнасці і не толькі быў добрым манахам, але і стаў вялікім святым.


"Сон св. Іосіфа", Даніэле Крэспі

Мараль, якая вынікае з гэтай гісторыі, ясная: нельга аддаваць снам тыя нашыя рашэнні, якія павінны быць старанна прааналізаваны нашым розумам і здаровым сэнсам, і прынятыя нашай свабоднай воляй. Нават калі рашэнні, прапанаваныя ў сне, не супярэчаць праўдзе веры або Божым запаведзям.

Што ж тычыцца сноў, змест якіх супярэчыць вучэнню Бога, яны павінны быць неадкладна і без усялякіх роздумаў адкінуты, нават калі ў іх ёсць нейкія прыкметы верагоднасці. "Калі ж паўстане сярод цябе прарок або той, хто бачыць сны, – чытаем у Кнізе Другазаконня, – і пакажа табе знак ці цуд, і здзейсніцца той знак ці цуд, што ён прадказаў, ды скажа пры тым: «Хадзем следам за іншымі багамі, якіх ты не ведаеш, і будзем служыць ім», – то не слухай слоў такога прарока або снавідца. Бо выпрабоўвае цябе Госпад, Бог твой, каб даведацца, ці любіш ты Яго ўсім сэрцам тваім і ўсёю душою тваёю, ці не" (Дрг 13, 2–4).

*А. Яцэк Салій OP,*
*з кнігі "Праца над верай"*

● *працяг у наступным нумары*

СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

*Папа Францішак*



*Вера ва ўваскрасенне Хрыста і надзея, якую Ён нам прынёс, – гэта самы цудоўны дар, які хрысціянін можа і павінен ахвяраваць братам. Давайце ўсім і кожнаму нястомна паўтараць: Хрыстос Уваскрос! Давайце паўтараць гэта словамі, але перш за ўсё сведчаннем жыцця. Добрая Навіна аб уваскрасенні павінна яснець на нашых тварах, у нашых пачуццях і паставах, у тым, якім чынам мы ўспрымаем іншых.*

*Мы абвяшчаем уваскрасенне Хрыста, калі Яго святло раз'ясняе цёмныя моманты нашага жыцця і мы можам дзяліцца ім з іншымі; калі мы ўмеем усміхнуцца з тымі, хто ўсміхаецца і паплакаць з тымі, хто плача; калі мы ідзём побач з тымі, хто сумуе і каму пагражае страта надзеі; калі расказваем пра нашае перажыванне веры тым, хто шукае сэнс і шчасце.*

*"Regina Coeli"*
*са Святым Айцом*

*Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч*



*На жаль, не ўсе згаджаюцца ажыццявіць свой жыццёвы шлях у Касцёле і з Касцёлам. Яны хацелі б ісці па самастойна выбраных шляхах. Ёсць і тыя, хто кажа, што верыць у Бога, але не верыць у Касцёл. На гэта неабходна адказаць пытаннем: а адкуль мы ведаем пра Бога, адкуль ведаем пра ўваскрасенне Езуса, адкуль ведаем пра навяртанне тысяч людзей у Ерузалеме пасля казання апостала Пятра? Ад таго ж самага Касцёла, які ў той час складаўся з Апосталаў і малой колькасці паслядоўнікаў Хрыста.*

*Касцёл – гэта наша духоўная Маці, якая ў сакраманце хросту нараджае нас да новага духоўнага жыцця і вядзе нас праз жыццё шляхам Евангелля. Хто не прызнае Касцёл за сваю духоўную Маці, той не можа прызнаваць Бога сваім Айцом, – навучае святы Кіпрыян.*

*Фрагмент гамілії падчас святой Імшы ў Чырвоным касцёле ў Велікодны панядзелак*




# Бог дае нам нейкія цяжкасці, але і сваю ласку



***Сёння сваёй гісторыяй дзеліцца з чытачамі сястра Аліцыя з Кангрэгацыі Школьных Сясцёр Нотр-Дам.***

### Малілася, але не разумела

Нарадзілася сястра Аліцыя ў горадзе Патсдам, што ў Германіі. Бацька быў праваслаўным, маці – каталічкай. Гадавалі разам чацвёра дзяцей. Рэлігійным выхаваннем у сям'і займалася бабуля, за што сястра ёй сёння вельмі ўдзячна.

*"Я б не сказала, што гэта было нешта глыбокае. Хутчэй, традыцыйная вера. Я не разумела, што Бог – гэта Айцец, які мяне стварыў і бязмежна любіць. У мяне было паняцце Бога строгага, які дзесьці на нябёсах карае за правіны".*

Дзеці падрасталі, вучылі малітвы. Паўтаралі іх, але, як прызнаецца сёння сястра, нічога не разумелі. З жахам думалі пра экзамен, які хутка давядзецца здаваць перад Першай камуніяй.

*"Першую споведзь я памятаю мала, камунію ўвогуле не памятаю. Было шмат людзей, у касцёле душна. Адзінае, што засталося ў памяці, гэта страх, ці здам я ксяндзу экзамен".*

Урачыстасць адбылася ў лідскім фарным касцёле. Пасля дзяўчынка стала наведваць святыню праз раз. Па-першае, асабліва нічога не разумела ў набажэнстве на польскай мове, па-другое, баялася праследавання за веру.

*"Памятаю, калі мы яшчэ жылі ў Геранёнах, ля варот касцёла стаяў дырэктар і вылаўліваў дзяцей, якія ішлі туды маліцца. Мне шанцавала, бо я была маленькага росту і магла «згубіцца» сярод людзей. Але страх перажывала моцны, таму што потым гэтых дзяцей публічна лаялі на школьнай лінейцы".*

### Хачу дарыць любоў

Ішоў час. Дзяўчына стала часцей задумвацца пра будучую прафесію. Найбольш прывабным для яе варыянтам здавалася праца бібліятэкара, бо вельмі любіла чытаць. Маніў доступ да таго, што так падабалася. Але дзесьці ўнутры дзяўчына разумела, што гэта не яе шлях.

*"Не скажу, што я малілася аб распазнанні свайго паклікання. Я нават не разумела, што аб гэтым трэба маліцца. Проста думала, куды мне ісці і што рабіць".*

Праз нейкі час у горадзе з'явіліся манахіні. Дзеці і моладзь сталі хадзіць на ўрокі рэлігіі. Дзяўчына ж была нясмелая, ёй не хапала адвагі, каб прыйсці і запісацца на заняткі.

*"Мне здавалася, што гэта для выбраных, для тых, хто нечым гэта заслужыў".*

Дзяўчына падоўгу заставалася ў касцёле і чакала, каб сёстры самі падышлі да яе. Але гэтага не здаралася.

*"У выніку бачу Божы Провід. Усявышні, ведаючы, што я ўсё ж сама не адважуся, зрабіў для мяне сюрпрыз: сёстры купілі дом і сталі маімі суседзямі".*

Дзяўчына стала часцей наведваць касцёл. А калі і не ведала, у які час набажэнства, гуляла па падворку, пакуль сёстры не выходзілі з дому.

Праз нейкі час адна сястра звярнула на дзяўчыну ўвагу і спытала, ці ходзіць тая на рэлігію. А пазней запрасіла ў групу марыянак (дзяўчынак, якія прысвяцілі сябе Марыі). І чым больш дзяўчына сустракалася з сёстрамі, тым больш у яе ўзмацнялася жаданне знаходзіцца разам з імі.

*"Адночы я пачула ад сясцёр словы, якія проста ашаламілі мяне: Бог – гэта Любоў. Даволі простыя словы, але як яны перавярнулі маю свядомасць! Гэта стала для мяне вялікім адкрыццём. Любоў Бога я адчувала праз саміх сясцёр: яны яе дарылі. І ў той момант я зразумела, што хачу быць такой, як яны: напаўняцца любоўю Бога і даваць яе іншым людзям".*

### Цудам блаславіў бацька

З той пары дзяўчына стала прыслухоўвацца да голасу свайго паклікання. Гэтая думка ўсё больш і больш мацнела ў яе душы. Урэшце яна сказала сабе "так". Аб сваім выбары расказала сёстрам, якія вельмі ўзрадаваліся.

*"...Чаго не магу сказаць пра бацькоў. Мама была катэгарычна супраць. І бабуля таксама. З аднаго боку, людзі ў нашай мясцовасці захапляліся сёстрамі, але з іншага – сваіх дзяцей на гэты шлях аддаваць не хацелі. У тым ліку і мая мама".*

Дзяўчына вырашыла падрыхтаваць сваіх блізкіх і трошкі пачакаць. Таму пасля школы не адразу пайшла ў манастыр, а па настаянні маці спрабавала паступіць ва ўніверсітэт. Рыхтавалася да экзаменаў, але, на дзіва, не здала беларускую мову, якую ведала лепш за ўсё. Каб не губляць часу, паступіла ў вучылішча на повара. За гэты час удалося падрыхтаваць да свайго рашэння маму.

*"Што датычыць бацькі, была ўражана. Я не казала яму пра свой выбар да апошняга. Думала, што калі мама з бабуляй, каталічкі, так адрэагавалі, то што ж скажа тата – праваслаўны? Малілася за яго ў гэтай інтэнцыі. І калі падышоў час, роўна за тыдзень, прыйшла на размову. Бацька сказаў так: «Гэта тваё жыццё, твой выбар, я не маю права табе замінаць». Для мяне гэта было адным з Божых знакаў, што сапраўды маю пакліканне. Бо калі б тата сказаў «не», я не стала б яму супярэчыць".*

### Цяпер я разам з Марыяй

Ва ўзросце 18 гадоў дзяўчына паступіла ў манастыр. У навіцыяце атрымала імя Аліцыя, у гонар апякункі сваёй кангрэгацыі. Малілася і разумела, што яе месца менавіта тут. Не мае значэння, што прыйдзецца рабіць у супольнасці – галоўнае, што яна з Марыяй, у Кангрэгацыі Сясцёр Нотр-Дам, што ў перакладзе з французскай мовы азначае "нашай спадарыні".

*"Ужо падчас першых шлюбаў я атрымала ад Бога вялікую ласку. Мая мама не толькі пагадзілася з маім выбарам, але і адчувала шчасце з гэтай нагоды, дала мне сваё благаслаўленне. Гэта стала для мяне яшчэ адным знакам Божага паклікання. Веру, што мае бацькі, якія ўжо адышлі ў жыццё вечнае, цешацца разам са мной і выпрошваюць для мяне неабходныя ласкі ў добрага Бога".*


Падчас катэхетычнай сустрэчы

24 чэрвеня 2006 года ў касцёле святога Вацлава ў Ваўкавыску сястра Аліцыя склала вечныя шлюбы.

*"Не скажу, што зараз усе праблемы зніклі – іх дастаткова. Але каб не цяжкасці, то, думаю, я б не адчувала моцнай Божай любові і ласкі. Трэба ўмець перажываць з Усявышнім кожны дзень, незалежна ад таго, што ён з сабой нясе. Быць удзячным за ўсё добрае і трымацца за руку Бога, калі здараюцца цяжкасці".*

*Ангеліна Пакачайла*




◆ *У Злучаных Штатах у бліжэйшыя месяцы святарскія пасвячэнні прымуць 595 новапрэзбітараў, што на 25% больш, чым у мінулым годзе. Бп Майкл Барбідж, адказны за пакліканні у амерыканскім епіскапаце, заўважае, што гэтыя даныя пацвярджаюць сталую тэндэнцыю росту. Нягледзячы на тое, што ўсё яшчэ не хапае духавенства, колькасць пакліканняў павольна але стабільна ўзрастае.*

◆ *У Галандыі каталікі не згаджаюцца на закрыццё касцёлаў. 12 тысяч чалавек падпісаліся над петыцыяй да кард. Вілема Эйка супраць ліквідацыі большасці мясцовых парафій. Кард. Эйк як старшыня епіскапата ўзняў гэтую праблему ў пасланні на Вялікі пост. У ім ён рыхтуе вернікаў да ўспрымання Касцёла без касцёлаў, у сувязі з тым, што часта ў некаторых парафіях не ўдаецца ўжо ўтрымліваць святыню. Аказваецца, што гэтая навіна выклікала вялікі перапалох і хаця б частково ўсвядоміла вернікам іх адказнасць за ўтрыманне касцёлаў.*

◆ *Амерыканскі даследчы цэнтр "Pew Research Center" падае, што калі ў свеце захаваецца сённяшняя тэндэнцыя, то ў 2050 г. 29% жыхароў зямнога шара будуць вызнаўцамі хрысціянства. Колькасць вызнаўцаў ісламу ўзрасце з 23% да 29%, вызнаўцаў будызму паменшыцца з 7% да 5%, колькасць індуістаў застанецца на тым жа ўзроўні (каля 15%), а тых, хто не адносіць сябе ні да якой рэлігіі, паменшыцца з 16% да 13%.*

◆ *Паводле інфармацыі французскага радыё VM i La Vie, у Францыі праз 30 гадоў працэнт каталікаў не будзе перавышаць 36,9% ад агульнай колькасці жыхароў краіны. На сённяшні дзень кожны другі з трох французаў ахрышчаны ў каталіцкім Касцёле. Сярэдні ўзрост каталікаў у гэтай краіне складае 45 гадоў, але ў 2045 ён будзе складаць 54 гады. Паводле апошніх даследаванняў, колькасць ахрышчаных каталікаў у 10 разоў перавышае колькасць практыкуючых.*

◆ *У Рыме, падобна як і ў мінулым годзе, 300 бяздомных атрымалі ад папы Францішка ў Вялікую пятніцу велікодны падарунак. Як падаюць італьянскія СМІ, у падарунак увайшлі: ліст з пажаданнямі, партрэт Папы і 50 еўра. Падарункі ад імя Папы раздавалі адказны за міласціну абп Конрад Краеўскі і кіраўнік яго бюро кс. Дыега Джавані Равэлі. Гэтая падзея мела месца, калі папа Францішак узначальваў Крыжовы шлях у рымскім Калізеі.*

◆ *У дыяцэзіі Быдгашч (Польшча) у Вялікі чацвер была распачата акцыя "Усынаві ксяндза", у якой удзельнічаюць маладыя людзі, што рыхтуюцца да СДМ у Кракаве. Мэтай акцыі з'яўляецца малітва за кожнага святара, які служыць у гэтай дыяцэзіі. Усе святары знаходзяцца ў спіску на адной з інтэрнэт-старонак, дзе можна здзейсніць гэтае "ўсынаўленне". Кожны, хто далучыцца да акцыі, бярэ на сябе абавязак штодзённай малітвы аж но да заканчэння Сусветных дзён моладзі ў Кракаве.*

*Ватыканскае радыё; Gosc.pl; katolik.ru; ekai.pl; sedmitza.ru*

***Кс. Ян Раманоўскі***

# Трэба клапаціцца аб захаванні чыстага сэрца



**Кс. Антоній Грэмза, галоўны арганізатар Дыяцэзіяльных дзён моладзі Гродзенскай дыяцэзіі ў Смаргоні**

**Ксёндз Антоній, раскажыце, калі ласка, чаму месцам сустрэчы моладзі дыяцэзіі была выбрана менавіта Смаргонь і чаму такі дэвіз?**

– Адказ вельмі просты: у апошні раз Дні моладзі праходзілі ў Смаргоні ў 2003 годзе, і ўвогуле, моладзь з гэтага горада вельмі актыўная і годна прымаць у сябе ДДМ. Дэвіз – "Чыстыя сэрцам бачаць Бога" – з'яўляецца парафразай галоўнага дэвіза, пададзенага папам Францішкам моладзі ўсяго Касцёла на бягучы год: "Шчаслівыя чыстыя сэрцам, бо яны Бога ўбачаць". Гэта словы аднаго з блаславенняў Пана Езуса.

**Якія існуюць крытэрыі выбару сталіцы Дыяцэзіяльных дзён моладзі?**

– Крытэрыі заўсёды нязменныя: добры даезд, гасціннасць ксяндзоў і вернікаў, актыўнасць мясцовай моладзі ў жыцці дыяцэзіі і парафіі.

**Каб прамовіць да сучаснай моладзі ці заахвоціць яе да чагосьці, трэба выкарыстаць усе магчымыя сродкі. Якія сродкі будуць выкарыстаны падчас гэтых дзён, каб маладыя людзі пачулі Хрыста і адзін аднаго?**

– Гэтымі сродкамі евангелізацыі будуць спецыяльны цягнік ДДМ – г.зв. цягнік "Чыстага сэрца", рэлігійныя канцэрты і сустрэчы з людзьмі, якія падзеляцца сведчаннем аб тым, чаму варта клапаціцца пра захаванне "Чыстага сэрца" ў кансэкраваным жыцці, святарстве, сужэнстве, пасля заручын і падчас перажывання перыяду маладосці.

**Больш моладзі прыязджае з гарадоў, менш – з вёсак. Але за столькі гадоў назіранняў, ці можаце Вы сказаць, з якіх парафій прыбывае больш за ўсё маладых людзей?**

– Так і ёсць. Моладзь з гарадскіх парафій – з Гродна альбо з Ліды, са Шчучына і Іўя – ахвотна прымае ўдзел у моладзевых сустрэчах. Колькасць удзельнікаў з гэтых гарадоў заўсёды высокая. Але ў працэнтных суадносінах ёй не саступаюць, а нават і перавышаюць яе некаторыя сельскія парафіі: Суботнікі, Забалаць, Шылавічы, Ліпнішкі.

**Якія новыя пункты прадугледжаны ў плане сёлетніх Дзён моладзі?**

– Як і заўсёды, пункты праграмы будуць адпавядаць галоўнай тэме сустрэчы – словам "Чыстыя сэрцам бачаць Бога". Ім таксама будуць прысвечаны катэхезы і працы ў групах, размовы і магчымасць далучыцца да "Руху чыстых сэрцаў", гэта значыць да групы людзей, якія ў сферы свайго інтымнага і сексуальнага жыцця стараюцца жыць паводле блаславенняў і навукі Пана Езуса.

**Ці прыносіць плён феномен моладзевых сустрэч, а гэта каля 1000 маладых людзей у папярэдніх ДДМ?**

– Заўсёды падчас Дыяцэзіяльных дзён моладзі адбываецца сталы працэс рэлігійнага выхавання маладых людзей. Сёлетняя сустрэча – не выключэнне. Ад выхавання адбываецца пераход да самавыхавання. Гэта відаць у жыцці моладзі, якая рэгулярна ўдзельнічала ў сустрэчах, а сёння сама вядзе актыўнае жыццё ў розных апостальскіх і парафіяльных групах, ажыўляючы іх сваімі хрысціянскімі ўчынкамі і сведчаннем жыцця.

**Як можна заахвоціць маладых людзей да штодзённай працы ў сваіх парафіях?**

– Трэба, перш за ўсё, паверыць у іх, каб яны маглі пераканацца, што змогуць разам зрабіць шмат добрага. Дасягненне гэтай мэты залежыць ад сталай прысутнасці душпастара разам з моладдзю і ад скіравання яе, каб на самой справе магла перажываць сваю веру як сустрэчу з жывым Богам. Тады будзе менш негатыўных выказванняў з боку ксяндзоў і дарослых адносна таго, што наша моладзь дрэнная ці што яна мала ўдзельнічае ў парафіяльным і апостальскім жыцці. На самой справе моладзь добрая, трэба толькі ўмець адкрыць яе патэнцыял дабра.

**Дзякуй за размову.**

***Размаўляў кс. Павел Салабуда***

# ПРАГРАМА
## ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫХ ДЗЁН МОЛАДЗІ ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ
### СМАРГОНЬ, 1–3 МАЯ 2015 Г.



**"ЧЫСТЫЯ СЭРЦАМ БАЧАЦЬ БОГА"**

**1 МАЯ – ПЯТНІЦА**

- $15^{00}$ – рэгістрацыя
- $17^{30}$ – прывітанне і адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту
- $18^{00}$ – СВЯТАЯ ІМША
- $19^{00}$ – канцэрт праслаўлення (гурт "LAUDANS")
- $20^{00}$ – вячэра
- $20^{40}$ – канферэнцыя: "Шчаслівыя чыстыя сэрцам, бо яны Бога ўбачаць" *(Мц 5, 8)*
- $21^{10}$ – радасны вечар і забавы
- $22^{45}$ – блаславенне на адпачынак

**2 МАЯ – СУБОТА**

- $9^{00}$ – ранішнія малітвы
- $9^{30}$ – КАТЭХЕЗА Ў КАТЭХЕЗАХ: Дар чысціні ў жыцці – I. Кансэкраванай Богу асобы; II. Святара; III. Сужэнцаў; IV. Нарачоных; V. Юнака; VI. Дзяўчыны
- $10^{30}$ – вынікі катэхез
- $11^{30}$ – СВЯТАЯ ІМША
- $13^{00}$ – абед
- $15^{00}$ – прэзентацыя моладзевых груп
- $17^{00}$ – канцэрт (гурты "AVE" і "OPEN")
- $18^{00}$ – вячэра
- $19^{30}$ – эўхарыстычная адарацыя (праект "РЫБЫ") і сакрамант пакаяння
- $20^{30}$ – пасвячэнне ў "РУХ ЧЫСТЫХ СЭРЦАЎ"
- $21^{10}$ – канцэрт (гурт "CROSSWAY")
- $22^{45}$ – блаславенне на адпачынак

**3 МАЯ – НЯДЗЕЛЯ**

- $9^{30}$ – СВЯТАЯ ІМША
- $10^{30}$ – канцэрт (гурт "МІЛАСЦЬ") Заканчэнне і блаславенне

**Інфармацыя для тых, хто выязджае цягніком Гродна – Смаргонь, Смаргонь – Гродна**

Плануецца асобны цягнік для ўдзельнікаў ДДМ у г. Смаргонь.

У сувязі з гэтым патрэбна абавязкова загадзя паведаміць арганізатараў аб дакладнай колькасці пасажыраў падчас заяўкі групы.

**1 мая: цягнік Гродна – Смаргонь.** *Адпраўленне з чыгуначнага вакзала ў г. Гродна ў* ***08.21.***

*Гадзіны прыпынкаў цягніка ў розных мясцовасцях арганізатары пададуць асобна падчас заяўкі кожнай парафіяльнай групы.*

**3 мая: цягнік Смаргонь – Гродна.** *Адпраўленне з чыгуначнага вакзала ў г. Смаргонь у* ***15.12.***

*Кошт білета ў абодва бакі для аднаго пасажыра –* **50 000 бел. руб.**

**Умовы ўдзелу:**

- узрост ад **15 гадоў;**
- рэлігійны намер;
- адказны за групу моладзі;
- спіс удзельнікаў (імя, прозвішча, узрост, населены пункт);
- сродкі гігіены і рэкамендаваныя лякарствы;
- кубак, лыжка і міска;
- асабісты ўзнос **40 000 бел. руб.** *(існуе магчымасць звальнення з узносу).*

***Падчас удзелу ў сустрэчы 2 мая можна будзе зрабіць прэзентацыю групы** (максімальны час – 5 хвілін). **Форма прэзентацыі – сведчанне на тэму "Дар чыстага сэрца".***

**Паведаміць аб удзеле групы неабходна да 27 красавіка:**
**у Гродне:** *кс. Антоній Грэмза* **(0152-74-00-73, 8029-632-43-73);**
**у Лідзе:** *кс. Уладзіслаў Сурвіла* **(8029-867-55-16);**
**у Смаргоні:** *кс. Станіслаў Краўчанка* **(8029-167-92-89).**

**Прыезд і ад'езд:**
уласным транспартам, аўтобусамі і цягніком.

# Даверся!

*"Калі Ты хочаш змяніць сваё жыццё, калі хочаш адчуць сапраўдную свабоду, тады нягледзячы на тое, наколькі складанай і незразумелай здаецца сітуацыя, у якой Ты аказаўся, павер, што яна ўпісана ў частку Божага плана для Твайго жыцця".*


*Сапраўдная вера ў Бога засноўваецца на поўным даверы да Яго*

Мяне завуць Аня, я звычайная дзяўчына, якая павінна кожны дзень бегаць на працу, вечарам за пакупкамі ці на заняткі па англійскай мове… Адным словам, у мяне такія ж праблемы, як і ва ўсіх людзей на свеце. Але часам мне ўдаецца знайсці хвілінку, каб задумацца над рознымі рэчамі. Я вельмі часта разважаю пра Бога, прыглядаюся да свайго жыцця і раз-пораз прыходжу да высновы, што менавіта Бог больш за ўсё клапоціцца пра мяне. Гэта Ён дапамагае мне пераадольваць цяжкасці і накіроўвае мяне, калі я павінна змагацца з выклікамі штодзённага жыцця.

Дарагі Чытач, цяпер, напэўна, Ты задаеш пытанне, навошта я ўсё гэта гавару. Дык вось, я хачу падзяліцца з Табой гісторыяй пэўнага чалавека, якая з'яўляецца сведчаннем дзейнасці Божай ласкі. Можа, некаторым гэтае сведчанне дапаможа з іншага боку паглядзець на праблемы або падштурхне да таго, каб лепш выкарыстаць дадзены час і навучыцца цешыцца з малых жыццёвых перамог.

"Аднойчы я вярнуўся ў пусты дом пасля цэлага дня, псіхічна прыгнечаны лёг на ложак і ляжаў на працягу некалькіх гадзін, перад вачамі пачарнела, я не ведаў, што адбываецца, адчуваў адну вялікую абыякавасць і адну неадчэпную думку, якая дазволіла б скончыць гэтыя мукі, што цягнуліся ўжо некалькі гадоў і канец якіх нішто не прадвяшчала. Я думаў аб тым, каб скончыць сваё жыццё. Але я быў настолькі слабы, што ў мяне не хапала сіл, каб устаць з ложка, таму я праляжаў так некалькі гадзін… Урэшце я прымусіў сваё абяссіленае цела ўстаць, дацягнуўся да кухні і зірнуў на абраз Езуса, што вісеў там. У мяне сагнуліся калені.

Я шматразова сварыўся з Богам, калі не мог справіцца са сваёй сітуацыяй. Але тады я нічога не чуў, быў абсалютна абыякавы. А гэтым разам здарылася штосьці дзіўнае: я пачуў голас нібы ўнутры сябе: «Не бойся, Я ёсць». Я тады адчуў такі вялікі наплыў любові, што мне здавалася, што я зараз памру, здавалася, што не змагу вытрываць такую веліч любові. Я скурчыўся, як кавалак фальгі, прыкладзены да агня, і плакаў, лежачы на плітцы падлогі ў кухні.

Калі ж я ўстаў, нічога ўжо не было па-ранейшаму, я ўжо не быў тым самым чалавекам. Праз некаторы час я ўсвядоміў, што меў дэпрэсію, што зламіўся эмацыянальна і ў тую хвіліну атрымаў нічым не заслужаную ласку, дзякуючы якой я змог устаць і супраціўстаяць ягонам.

Тады Езус паказаў мне, наколькі Ён блізка ва ўсёй гэтай сітуацыі. Раптам я паглядзеў на ўсё з абсалютна іншай перспектывы. Я ўбачыў, наколькі малыя мае праблемы ў параўнанні з гэтай крыніцай незразумелай любові. Тое, што яшчэ хвіліну таму здавалася мне невырашальнай сітуацыяй, раптам стала дробязззю. Я адчуў, што Бог сапраўды існуе і хоча дзейнічаць у нашым жыцці. І калі Ён так блізка, то ўсё тое, што мяне напаткала, мае сэнс, а калі яно мае сэнс, то варта жыць.

Калі Ты хочаш змяніць сваё жыццё, калі хочаш адчуць сапраўдную свабоду, тады нягледзячы на тое, наколькі складанай і незразумелай здаецца сітуацыя, у якой Ты аказаўся, павер, што яна ўпісана ў частку Божага плана для Твайго жыцця. Жаданне зразумець і разабрацца ў складаных сітуацыях павінна саступіць месца веры і даверу да Бога. Гэта не азначае, што Ты павінен сесці і нічога не рабіць, гэта не так. Наадварот, Ты павінен дзейнічаць, але ў паўнаце веры і даверу да Бога.

Я ведаю мноства людзей, якія без досведу пакут не адкрылі б Бога ў сваім жыцці. Часта Бог дзейнічае ў нас на самым апошнім месцы, мы спрабуем усё, але толькі не звяртаемся да Яго і такім чынам па дарозе атрымліваем раны. Але ўрэшце дабіраемся да Яго".

Я павінна прызнацца, што менавіта гэтая гісторыя дапамагла мне калісьці па-іншаму паглядзець на ўсё, што адбываецца ў маім жыцці, і набыць у пэўным сэнсе дадала сіл, каб пераадолець цяжкасці. З таго дня я ўсё больш вучылася пакоры, усё больш адкрывала сваё сэрца на Бога, а Ён вёў мяне кожны дзень. Я даверыла Езусу ўсе свае справы, а Ён дапамог мне. Таму і Ты, дарагі Чытач, даверся!

*Падрыхтавала*
*Кінга Красіцкая*




## Тыдзень Божай Міласэрнасці ў Іўеўскай парафіі

Вернікі з парафіі святых апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі наведалі чатыры бальніцы, дзе знаходзяцца састарэлыя. Парафіяне віншавалі хворых са святам Уваскрасення Хрыста, частавалі велікоднымі яйкамі, салодкасцямі, дарылі паштоўкі і іншыя падарункі.

Таксама парафіяне наведалі інтэрнат для псіханеўралагічна хворых, які знаходзіцца ў в. Карнышы (Навагрудскі раён). Завяршыўся тыдзень Божай Міласэрнасці канцэртам, на якім творы Баха выканаў 13-гадовы Антон Шукаў. Таксама класічныя творы з розных эпох зайграў для прысутных інструментальны ансамбль "Рафіка".









## З КАТАЛІЦКАГА ДРУКУ




### *Амаль мільён убачыць Турынскую плашчаніцу*

***Каля 900 тысяч чалавек запісаліся ў інтэрнэце на візіт у катэдру ў сталіцы П'емонта, дзе ад 19 красавіка да 24 чэрвеня будзе выстаўлена Турынская плашчаніца.***

*Канчатковая колькасць асоб, якія ўвойдуць у Капліцу святой плашчаніцы ў катэдры св. Яна Хрысціцеля, будзе яшчэ большай, бо прыём заявак працягваецца.*

*21 і 22 чэрвеня візіт у Турын здзейсніць папа Францішак, які таксама ўбачыць льняное палатно. Згодна з традыцыяй, у яго было загорнута цела Хрыста пасля ўкрыжавання і на ім бачны сляды Яго крыві.*




### *Кенія: супольная малітва аб супакоі*

***У Гарысе, дзе ў Вялікі чацвер ісламскія фундаменталісты жорстка забілі 148 хрысціянскіх студэнтаў, адбыўся марш супрацьстаяння тэрарызму.***

*На чале маршу ішло звыш 2500 студэнтаў, якія такім чынам выражалі сваю памяць пра забітых і адначасова патрабавалі ад улад большай аховы і гарантыі бяспекі ва ўніверсітэтах Кеніі. Маніфесту спадарожнічала міжрэлігійная малітва аб супакоі, бяспецы і паяднанні. У гэтай інтэнцыі кенійскія хрысціяне маліліся таксама ў касцёлах усёй краіны падчас велікодных літургій.*




### *Джыхадзісты ўзарвалі марыйны касцёл*

***Джыхадзісты з гэтак званай Ісламскай дзяржавы ўзарвалі касцёл Найсвяцейшай Панны Марыі ў вёсцы Тэль-Наср у паўночна-ўсходняй Сірыі.***

*Гэта быў элемент абсалютна свядомага пазбаўлення слядоў хрысціянскай прысутнасці ў гэтым рэгіёне. Джыхадзісты прывялі ў дзеянне закладзены ў гэтым касцёле выбуховы зарад.*

*У вострых словах велікодны тэрарэстычны акт асудзіла Асірыйская сець праў чалавека. Было ўзгадана, што ў рамках міжнароднага права гэта ваеннае злачынства.*

*Кінга Красіцкая*

## "Будзь міласэрны да нас і да ўсяго свету"

*Вернікі парафіі ў Сапоцкіне, сярод якіх дзеці і моладзь, па традыцыі ў нядзелю Божай Міласэрнасці здзейснілі пілігрымку ў парафіяльную капліцу ў Свяцку, дзе знаходзіцца абраз "Езу, давяраю Табе".*



12 красавіка група з 40 парафіян на чале з пробашчам кс. Антоніем Абухоўскім вырушыла ў шлях. Вернікі пілігрымавалі ў інтэнцыі сваёй парафіі, блізкіх, родных і сяброў, разам маліліся Богу, багатаму ў міласэрнасць: "Будзь міласэрны да нас і да ўсяго свету".

У капліцы Божай Міласэрнасці ў Свяцку адбылася адпустовая Імша, якую ўзначаліў кс. Юрый Марціновіч. У гаміліі святар наблізіў прысутным гісторыю свята Божай Міласэрнасці, адзначыўшы, што "праўда пра Бога, багатага ў міласэрнасць, дазваляе нам убачыць Яго побач з чалавекам, асабліва церпячым, тым, для якога існуе пагроза ў яго існаванні і чалавечай годнасці".

## Святая Імша ў інтэнцыі ахвяр Смаленскай катастрофы

*Набажэнства ў інтэнцыі ўсіх загінуўшых падчас авіякатастрофы пад Смаленскам адбылося 10 красавіка ў касцёле Адшукання Святога Крыжа ў Гродне.*

Трагедыя, якая здарылася 5 гадоў таму, забрала жыцці амаль усяго дзейснага ўраду Рэчы Паспалітай агульнай колькасцю 96 чалавек. Вернікі Гродзенскай дыяцэзіі з пробашчам пабернардынскага касцёла кс. Антоніем Ханькам, які ўзначаліў св. Імшу, маліліся за вечны супакой і шчасце ахвяр катастрофы ў Доме Айца.

## Нядзеля Божай Міласэрнасці ў Геранёнах

*З нагоды свята моладзь парафіі св. Мікалая, біскупа, у Геранёнах падрыхтавала і паставіла пантаміму.*



На пачатку пастаноўкі рознакаляровая скрынка прываблівае вока звычайнага чалавека, якому адкрыць яе не ўдаецца. Гэтую ж скрынку заўважае і хворы чалавек, які, зазірнуўшы ў яе, становіцца здаровым. Сумны чалавек, які ўжо згубіў надзею на жыццё, становіцца радасным і гэтую радасць нясе навокал. Затым на сцэне з'яўляюцца маладыя сужэнцы, якія сварацца, не ўступаючы адно аднаму, але заўважаюць скрынку, якая асвятляе іх жыццё. Сваю памылку яны разумеюць і прабачаюць адно аднаму.

Паўстае пытанне: што ж там, у гэтай рознакаляровай скрынцы? Гэта крыж Езуса Хрыста, які выцягвае са скрынкі звычайны чалавек, паказваючы ўсім людзям Божую міласэрнасць.

## Адбылася сустрэча медыкаў Гродзенскай дыяцэзіі

*11 красавіка ў касцёле Святой Сям'і ў Лідзе падчас сустрэчы медыкі разважалі над тэмай "Медыцынскія і духоўныя аспекты дэпрэсіі".*



Кожны год павялічваецца колькасць людзей, якія пакутуюць на гэтую хваробу. За апошнія некалькі гадоў дэпрэсія стала хваробай цывілізацыі і закранула прыкладна 450 мільёнаў чалавек ва ўсім свеце. Лічыцца, што пасля 2020 г. яна будзе вядучай прычынай інваліднасці.

Падчас сустрэчы службы аховы здароўя ў Лідзе ўдзельнікі і госці разам шукалі прычыны ўзнікнення дэпрэсіі і шляхі дапамогі чалавеку, якога яна закранула. Пробашч лідскай парафіі Святой Сям'і і гаспадар сустрэчы кс. Юзаф Ханьчыц, вітаючы ўдзельнікаў, адзначыў, што толькі Езус Хрыстус найлепш ведае рэцэпты для шчасця чалавека і толькі Ён можа аздаравіць нават ад найбольшых хвароб душы і цела. У сваю чаргу кс. Мікалай Ціхановіч казаў пра неабходнасць адрозніваць апантанасць ад псіхічнага захворвання і прадставіў згодна з хрысціянскімі ўяўленнямі прыкметы апантанасці.

Падчас сустрэчы медыкі дзяліліся вопытам працы, разглядалі з'яву дэпрэсіі ў розных вымярэннях чалавечай асобы для таго, каб больш эфектыўна дапамагаць пакутуючым. У межах сустрэчы адбылася таксама святая Імша, якую ўзначаліў дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юрый Касабуцкі.

## У Шчучыне адбыліся рэкалекцыі для моладзі

*Дзень засяроджання для маладых людзей, якія рыхтуюцца да сакраманту канфірмацыі, у гэтым годзе прайшоў 11 красавіка. У рэкалекцыях прынялі ўдзел амаль усе кандыдаты, каля 40 чалавек.*

На працягу дня маладыя людзі праслухалі дзве канферэнцыі, адна з іх на тэму клопату пра Касцёл і асабліва пра супольнасць, да якой яны належаць. Канферэнцыі прамовіў рэдэмптарыст а. Андрэй Ядкоўскі.

Другая канферэнцыя мела форму сведчання на тэму малітвы, асабліва адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту. Пасля адбылася супольная адарацыя як вынік сведчання на малітвы пакланення, словы і музычнае афармленне якой падрыхтавала моладзь з Мінска.

## Усяночная адарацыя адбылася ў гродзенскай катэдры

*У ноч з 11 на 12 красавіка, перад святам Божай Міласэрнасці, па ўжо даўно складзенай традыцыі ў парафіі св. Францішка Ксаверыя адбылася ўсяночная адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту. Падчас яе прысутныя маліліся аб вольнасці і спакойным жыцці хрысціян у Сірыі.*

Малітоўнае чуванне распачалося апоўначы св. Імшой, якую ўзначаліў кс. Віталій Дабраловіч – кіраўнік дабрачыннай арганізацыі "Карытас" Гродзенскай дыяцэзіі. У сваёй гаміліі святар адзначыў, што мы, паводле прыкладу Езуса Хрыста, павінны актыўна прымаць удзел у справах міласэрнасці, нагадаў, што папа Францішак абвяў наступны літургічны год Годам міласэрнасці.

Падчас адарацыі на працягу ўсёй ночы супольна маліліся моладзь, розныя малітоўныя парафіяльныя супольнасці і іншыя вернікі горада Гродна. Завяршылася ўсяночная адарацыя св. Імшой а 7-й гадзіне раніцы.

## У Лідзе адбудзецца сімпозіум для кансэкраваных асоб

**29 красавіка ў парафіі Святой Сям'і ў Лідзе пройдзе сімпозіум для кансэкраваных асоб Гродзенскай дыяцэзіі на тэму "Евангелле, прароцтва, надзея".**

Гэты сімпозіум адбываецца ў межах Года кансэкраванага жыцця, мэта якога – паглыбіць веру тых, хто ахвяраваў сваё жыццё на служэнне Богу і людзям, а таксама падкрэсліць значэнне кансэкраваных асоб у жыцці Касцёла.

**Праграма:**

10.00 – уступ (а. Вітольд Пяцельчыц SChP);
10.15 – Вяночак да Божай міласэрнасці (а. Антоній Пажэцкі OFMConv);
10.30 – рэферат I: "Абудзіце свет радасцю, крыніцай якой з'яўляецца Хрыстос: папа Францішак да кансэкраваных асоб";
11.00 – дыскусія;
11.30 – рэферат II: "У еднасці ўвасабляць Хрыста ў свеце. Манаскае жыццё ў служэнні новай евангелізацыі";
12.00 – дыскусія, пытанні;
13.00 – абед;
14.00 – рэферат III: "Memoria Sanctorum і Memoria Martyrum як найважнейшыя стацыі Года кансэкраванага жыцця";
14.30 – прэзентацыя "Жыццё кансэкрацыі" (шанштацкія сёстры);
15.30 – выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту, адарацыя, сакрамант паяднання;
16.00 – святая Імша (цэлебруе кс. бп Аляксандр Кашкевіч), заканчэнне.

## Запрашаем на сімпозіум "Любоў – наша місія – сям'я ў поўні жывая"

**10 мая ў касцёле Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне (вул. Курчатава, 41) пройдзе сімпозіум "Любоў – наша місія – сям'я ў поўні жывая", арганізаваны Радай па справах сям'і пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі.**

**Праграма:**

09.30 – рэгістрацыя ўдзельнікаў;
10.00 – адкрыццё сімпозіума;
10.20 – прэзентацыя катэхез на тэму "Любоў – наша місія – сям'я ў поўні жывая";
10.40 – лекцыя "Любоў – гэта скарб, схаваны ў гліняным посудзе";
12.00 – перапынак на каву;
12.30 – сведчанне сужэнства Роберта і Марыі;
14.00 – абед;
15.00 – секцыя "Дыялог, які садзейнічае любові", пытанні;
16.00 – варштаты "Камунікацыя ў сужэнстве";
17.30 – перапынак на каву;
18.00 – падсумаванне і святая Імша на заканчэнне сімпозіума.

## Вынікі інтэрнэт-апытання

**Чым для Вас з'яўляецца Вялікдзень?**

*85,7% рэлігійнай падзеяй*
*8,2% сямейным святам*
*4,1% прыгожай традыцыяй*
*2% цяжка сказаць*

*У чарговым апытанні мы прапанавалі чытачам адказаць на пытанне, чым для іх з'яўляецца Вялікдзень. Большасць успрымае Вялікдзень як рэлігійную падзею. Гэта найважнейшае хрысціянскае свята. Езус праз сваё ўваскрасенне адчыніе для кожнага з нас брамы неба. Мы павінны быць духоўна падрыхтаваны да яго ўжо тут, на зямлі.*

**Чарговыя вынікі каментуе кс. Павел Салабуда, галоўны рэдактар.**

## Каментарый эксперта


Кс. Павел Салабуда

*Дакладны і вельмі важны адказ мы атрымалі на чарговае апытанне. Большасць рэспандэнтаў успрымае Вялікдзень як рэлігійнае свята. Акрамя сямейных сустрэч і гасціннасці пры нашых сталах, мы павінны адчуць духоўную прысутнасць уваскрослага Хрыста ў нашым жыцці. І таму, перажываючы гэты важны дзень, мы становімся сведкамі цуду Уваскрасення. Трэба памятаць, што Вялікдзень здзяйсняецца заўсёды, калі мы хочам быць побач з Богам, які ўстае з памерлых і адчыняе для нас брамы неба. Давайце цешыцца з гэтага вялікага рэлігійнага і духоўнага досведу.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

23 красавіка 1952 г. – кс. Вацлаў Радомскі, *проб. Парэчча, памёр у Карагандзе;*
24 красавіка 1991 г. – кс. Аляксандр Цярэшка, *проб. Волпа;*
24 красавіка 1992 г. – кс. Ян Мяноўскі, *проб. Рагозніца;*
24 красавіка 2005 г. – а. Венантый Вількаш CSsR, *проб. Рэпля;*
25 красавіка 1984 г. – кс. Юзаф Мацееўскі, *проб. Заневічы.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўваліся інтэрнэт-старонкі:* ***grodnensis.by, catholic.by***

# Ад шчырага сэрца

Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай уваскрослы Хрыстос напаўняе Ваша жыццё святлом і любоўю і суправаджае па цудоўным святарскім шляху. Няхай Маці Божая заўсёды чувае над Вамі, а Анёл-ахоўнік дапамагае ў складаных жыццёвых момантах.

*Са шчырай малітвай Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

Паважанаму Ксяндзу Юрыю Канапельку з нагоды Дня нараджэння і Імянін складаем сардэчныя пажаданні шчодрых дароў Святога Духа, сталай апекі Найсвяцейшай Маці, доўгіх гадоў жыцця, моцнага здароўя, цярплівасці, душэўнага супакою, усіх Божых ласкаў і добразычлівых людзей побач.

*Вернікі з капл. Вердамічы*

Паважанаму Ксяндзу Генадзію Рамашко з нагоды Імянін складаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай кожны Ваш дзень будзе шчаслівы і благаслаўлёны, здароўе не слабне, вера з кожнай хвілінай узмацняецца, а з твару не сыходзіць усмешка. Няхай добры Бог адорвае Вас сваімі ласкамі, а Маці Божая і св. Заступнік нястомна Вамі апекуюцца. Шчасці Божа!

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Германішкаў*

Паважанаму Ксяндзу Юрыю Павайбу з нагоды Імянін жадаем мноства Божых ласкаў на кожны дзень жыцця і святарскай паслугі, нястомнай апекі Маці Божай і св. Заступніка, а таксама шчодрых дароў Святога Духа. Няхай кожны дзень праходзіць у супакоі і шчасці, а навокал будуць добрыя і зычлівыя людзі.

*III Ордэн св. Францішка, Колы жывога Ружанца і парафіяльны хор з пар. Тэалін*

Паважанаму Ксяндзу Юрыю Барташэвічу з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні. Няхай Ваш Анёл-ахоўнік заўсёды будзе побач, Пан Бог адорвае Вас супакоем і ўсім, чаго патрабуе Вашае сэрца, а Маці Божая ахінае Вас сваім плашчом. Няхай Ваш шлях да Бога прыцягвае вернікаў, а моладзь, якае будзе Вас слухаць, заўсёды трывае пры Вас.

*З любоўю і ўдзячнасцю парафіяне з Жырмунаў*

Паважанаму Ксяндзу Юрыю Федуку з нагоды Імянін складаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай добры Бог нястомна спасылае на Вас свае дары, а Святы Дух дадае моцы і падтрымлівае на святарскім шляху. Няхай св. Заступнік чувае над Вамі і вядзе па дарозе святасці, асветленай промнямі Божай любові і міласэрнасці. Шчасці Божа!

*З малітоўнай памяццю члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Ражанкі*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Раману Ялоўчыку з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана перасылаем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, Божага благаслаўлення, радасці, аптымізму, дароў Святога Духа і моцнай веры. Няхай Езус, які аддаў сваё жыццё на крыжы, дапамагае Вам ва ўсіх справах. Ад усяго сэрца дзякуем за клопат пра касцёл і нас.

*З павагай і малітвай вернікі з пар. Нараджэння НПМ у Кемелішках*

Паважанаму Ксяндзу Генадзію Рамашко з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай найвышэйшы Бог ахінае Вас сваёй міласэрнасцю і адорвае ласкамі, Святы Дух няхай асвячае кожны дзень Вашай святарскай паслугі, а Найсвяцейшая Маці мае Вас у сваёй апецы. Няхай добры Бог узнагародзіць Вас за ўсе старанні і прыклад жыцця, за дарогу, па якой Вы нас вядзеце да крыніцы, з якой мы чэрпаем сілы і любоў да Бога, за бязмежную дабрыню, шчырую малітву, мудрыя парады, прыемную ўсмешку, а таксама за тое святло, якое Вы нясеце не толькі ў нашай парафіі, але і ўсім людзям, якім гэта неабходна. Асобнае дзякуй за аднаўленне нашага касцёла.

*Удзячныя парафіяне з Германішкаў*

Паважанаму Ксяндзу Здзіславу Вэдэру з нагоды Дня святара і Велікодных свят ад усяго сэрца жадаем здароўя на доўгія гады і поспехаў у душпастарскай працы. Ваша энергія, радасць і ўсмешка дадаюць Вам жыцця, а нас вельмі цешаць. Няхай Маці Божая прытуляе Вас да свайго сэрца і дадае сіл служыць Богу і людзям.

*З малітвай Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

Паважанай Сястры Марыі Стасевіч з нагоды свят Уваскрасення Пана перасылаем сардэчныя пажаданні мноства сіл і моцнага здароўя. Няхай уваскрослы Хрыстос апекуецца Вамі і дадае сіл у працы, а Маці Божая падтрымлівае і прытуляе да свайго сэрца. Мы заўсёды памятаем пра Вас у сваіх малітвах.

*Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

Шаноўным Сёстрам: Вераніцы Блізнюк, Ірыне Барцэвіч, Валянціне Кот, Мар'яне Алешчык, Філатэі Ціхановіч, Аляксандры Арэшка, Агаце Смольскай і Клары Волчэк з нагоды Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Вашае жыццё будзе напоўнена святлом і любоўю, а Збаўца вядзе па цудоўнай дарозе, якую Вы выбралі, і адорвае здароўем і цярплівасцю.

*З павагай і малітвай Аліцыя і Віталій Воранавы*

Паважаным Ксяндзам: Станіславу Краўчанку, Станіславу Лугаўскому, Юзафу Багдзевічу, Юзафу Макарчыку, Віктару Захарэўскаму і Аляксандру Мятліцкаму з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні здароўя на доўгія гады жыцця. Няхай добры Бог штодзённа адорвае Вас сваімі шчодрымі ласкамі, узмацняе веру і надзею, а Маці Божая нястомна Вамі апекуецца.

*З малітвай Аліцыя і Віталій Воранавы*

Паважанаму Ксяндзу Юрыю Свісlоцкаму з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, сіл і стойкасці на святарскім шляху, штодзённай радасці і душэўнага супакою. Няхай Маці Божая атуляе Вас плашчом сваёй мацярынскай апекі, а св. Юрый абараняе ад усякага зла і суправаджае па жыццёвым шляху. Шчасці Божа!

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Крамяніцы*

Паважанаму Ксяндзу Яну Рэйшалю з нагоды Велікодных свят і Дня святара складаем сардэчныя пажаданні добрага здароўя, супакою ў сэрцы, аптымізму, сіл і цярплівасці, а таксама ўсіх ласкаў ад уваскрослага Хрыста. Нястомна абвяшчайце Божае слова і штодзённа давайце прыклад веры і любові да Бога і бліжніх. Няхай Маці Божая Вас благаслаўляе і будзе Вашай вернай спадарожніцай на шляху ў Валадарства Нябеснае.

*Вернікі з в. Скярсі*

Паважаным Ксяндзам Мар'яну Хаменю і Пятру Вішнеўскаму з нагоды Дня святара, свят Уваскрасення Пана і Божай Міласэрнасці жадаем здароўя, шчасця, цярплівасці, радасці, добрых і зычлівых людзей побач, а таксама поспехаў у душпастарскай працы. Няхай Пан Езус прытуляе Вас да свайго сэрца і абараняе ад хвароб і няшчасцяў, Маці Божая няхай нястомна чувае над Вамі, а Святы Дух адорвае сваімі дарамі.

*Вернікі з пар. Найсвяцейшай Тройцы ў Шылавічах*

Паважанаму Ксяндзу Юрыю Марціновічу з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана перасылаем сардэчныя пажаданні здароўя на доўгія гады, шчасця, радасці. Няхай уваскрослы Хрыстос адорвае Вас любоўю і апекай. Дзякуем за цудоўны прыклад веры і набожнасці.

*Вернікі з в. Вінуцкі і ваколіц*

Паважаным Айцам: Вітольду Пяцельчыцу, Аляксандру Махначу, Віталію Сярко і Віталію Слуку з нагоды Велікодных свят і Дня святара складаем сардэчныя пажаданні шчодрых ласкаў і святла, якое прыносіць у жыццё ўваскрослы Хрыстос, а таксама супакою, надзеі і сілы на служэнне Богу і людзям.

Ад усяго сэрца дзякуем Вам за духоўнае адраджэнне парафіі і аднаўленне святыні, за любоў і клопат пра кожнага з нас.

*Біблійная кола са Шчучына*

Паважаным Ксяндзам: Пробашчу Антонію Філіпчыку, Паўлу Эйсманту і Дзмітрыю Леўчыку з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем мноства сардэчных пажаданняў моцнага здароўя, душэўнага супакою, спакойных дзён у Божай ласцы і дабрыні ад людзей. Няхай Святы Дух распаўсюджвае сваё святло на кожны дзень Вашай святарскай паслугі, Хрыстос заўсёды будзе Вашым Сябрам, а служэнне Богу і людзям прыносіць задавальненне і шчодры плён.

*Парафіяльны хор і ўдзячныя парафіяне*

Паважанаму Ксяндзу Генрыху Яблоньскаму з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана перасылаем сардэчныя пажаданні ўсіх Божых ласкаў, апекі Панны Марыі, благаслаўлення ад уваскрослага Збаўцы і моцнага здароўя на кожны дзень жыцця.

*Парафіяльны хор і ўдзячныя вернікі з пар. св. Вацлава ў Ваўкавыску*

Шаноўным Сёстрам: Агнешцы, Аліцыі, Караліне і Антаніне з нагоды Велікодных свят ад шчырага сэрца перасылаем пажаданні здароўя, Божага благаслаўлення, шчодрых і зычлівых людзей на жыццёвым шляху. Няхай уваскрослы Езус адорыць Вас сваёй ласкай, а Марыя Панна нястомна Вамі апекуецца.

*Парафіяльны хор і ўдзячныя парафіяне*

Паважанаму Ксяндзу Юрыю Кузьмічу з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем усяго найлепшага: Божага благаслаўлення, аптымізму ў кожнай сітуацыі, моцнай надзеі і веры ў сэрцы, а таксама нязгаснай усмешкі на твары. Няхай усе нягоды Вас абмінаюць, а побач будуць толькі добрыя і зычлівыя людзі, заўсёды гатовыя падтрымаць і раздзяліць з Вамі радасць.

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Новага Двара*

Паважаным Ксяндзам: Пробашчу Паўлу Беланосу і Яраславу Грынашкевічу з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай усё, што сустракае Вас на жыццёвым шляху, вядзе да з'яднання з Богам. Няхай кожны дзень будзе напоўнены цеплынёй, радасцю, людской зычлівасцю і супакоем. Няхай Святы Дух умацоўвае Вас кожную хвіліну і шчодра адорвае сваімі дарамі. Хрыстос Уваскрос! Алелюя!

*Удзячныя вернікі з Макараўцаў*

Дарагому сыну Ксяндзу Вячаславу Матукевічу з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем усіх Божых ласкаў на кожны дзень. Няхай Твая дарога да Пана будзе лёгкай і прамой, побач заўсёды будуць блізкія людзі і добрыя сябры, здароўе няхай спрыяе, а ўваскрослы Пан шчодра адорвае сваімі ласкамі. Будзь святым святаром і ніколі не спыняйся на дасягнутым.

*Мама і тата*

Паважаным Айцам: Пробашчу Вальдэмару Слоту і Андрэю Ядкоўскаму з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана жадаем моцнага здароўя, супакою ў душы і радасці ў сэрцы. Няхай Езус Хрыстус, які памёр за нас на крыжы і ўваскрос, дадае Вам сіл для паслугі на Божай ніве, узмацняе надзею і адорвае сваімі каштоўнымі ласкамі. Прысвячайце сваё жыццё Богу да апошняй хвіліны – і Ён узнагародзіць Вас у сваім Валадарстве.

*Вернікі з пар. Перамянення Пана ў Вялікай Бераставіцы*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віталію Чургану з нагоды Дня святара і Велікодных свят ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, сіл у душпастарскай працы, душэўнага супакою, а таксама рэалізацыі ўсіх намераў. Няхай Маці Божая апекуецца Вамі штодзённа, а Святы Дух адорвае сваімі дарамі.

*З малітвай і ўдзячнасцю парафіяне з Юрацішкаў*

Паважанаму Ксяндзу Юрыю Грыцко з нагоды Дня святара і Велікодных свят ад усяго сэрца жадаем мноства Божых ласкаў. Няхай уваскрослы Хрыстос адорвае Вас сваім благаслаўленнем і напаўняе сэрца супакоем. Моцнага здароўя Вам на доўгія гады!

*Парафіяне з капл. Божай Міласэрнасці ў в. Хадзілоні*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Канапельку з нагоды свят Уваскрасення Пана і Дня нараджэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў моцнага здароўя, радасці ў душпастарскай паслузе, сіл у рэалізацыі ўсіх планаў і намераў. Няхай людзі, якіх Вы сустракаеце на сваім шляху, заўсёды будуць зычлівымі і добрымі, а ўсемагутны Бог няхай спасылае на Вас свае дары.

*Удзячныя парафіяне*

Паважаным Ксяндзам: Паўлу Салабуду, Валерыю Быкоўскаму і Паўлу Урбану з нагоды свят Уваскрасення Пана жадаем шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень жыцця, нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, а таксама моцнага здароўя і шчасця ў працы на ніве Пана.

*Вернікі са Мсцібава*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Канапельку і ўсім, хто дапамагае ў душпастарскай паслузе ў нашай парафіі, з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем усіх Божых ласкаў на кожны дзень святарскай паслугі, шмат здароўя і радасных дзён, здзяйснення мар і толькі добразычлівых людзей побач. Няхай Святы Дух адорыць Вас сваімі дарамі, а Маці Божая Нястомнай Дапамогі дапамагае і мае ў сваёй апецы. Хрыстос Уваскрос!

*Вернікі з капл. Бортнікі і Кола жывога Ружанца мсціба́ўскай парафіі*

Паважанаму Айцу Віталію Бандаронку з нагоды Імянін складаем букет найлепшых пажаданняў: моцнага здароўя, сілы і стойкасці на святарскім шляху, штодзённай радасці, душэўнага супакою, моцнай веры, непахіснай надзеі і палымянай любові ў сэрцы. Няхай кожны, хто сустрэнецца на Вашым жыццёвым шляху, убачыць у Вас прыклад вернасці і адданасці Богу і людзям.

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чысцовым душам са Слоніма*

Паважаным Ксяндзам: Пробашчу Яну Радзюку, Паўлу Урбану, Тадэвушу Крыштопіку, Паўлу Звяжынскаму і Паўлу Раманоўскаму з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем мноства Божых ласкаў. Няхай Езус, якога Вы штодзённа трымаеце ў сваіх руках, благаслаўляе Вас, а Маці Божая, якая даручае Вам свайго Сына, ахінае сваёй мацярынскай любоўю і апекай. Няхай крыніцай Вашай моцы будзе сэрца Езуса. Сіл і стойкасці на кожны дзень жыцця і святарскай паслугі!

*Вернікі з пар. св. Юзафа ў Гродне*

Паважанаму Ксяндзу Віталію Дабраловічу з нагоды свят Уваскрасення Пана ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў: моцнага здароўя, сілы і цярплівасці на святарскім шляху, добрых і зычлівых людзей побач, а таксама шчодрых дароў ад уваскрослага Езуса і нястомнай апекі Яго Маці – Найсвяцейшай Панны Марыі. Хрыстос Уваскрос!

*Алена Анiскевіч разам з дзецьмі, в. Гіровічы*

Паважаным Ксяндзам Яну Сарэлу і Леону Лішыку з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана перасылаем пажаданні мноства Божых ласкаў: моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, душэўнага супакою, аптымізму, апекі Маці Божай і Езуса Хрыста.

*Члены Кола жывога Ружанца з пар. Волпа*

Паважанаму Ксяндзу Паўлу Шаньчуку з нагоды Дня святара і Вялікадня ад усяго сэрца жадаем шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень жыцця і душпастарскай паслугі, нястомнай апекі Панны Марыі, Маці святароў, усіх дароў Святога Духа і багатага плёну на ніве Пана. Няхай усё задуманае рэалізуецца, а Ваша жыццё прыцягвае іншых да Хрыста.

*Парафіяне з Гожы*

Паважаным Айцам: Пробашчу Вітольду Жэльветру, Віктару Барысевічу, а таксама Сёстрам Люцыі і Анджэі з нагоды свят Уваскрасення Пана перасылаем найлепшыя пажаданні. Няхай Езус Хрыстус уваскрослы шчодра адорвае Вас сваімі ласкамі і благаслаўленнем, Маці Божая нястомна апекуецца Вамі, а Святы Дух спасылае свае дары. Няхай здароўе не слабне, сілы ўзмацняюцца, а ў душы заўсёды госціць супакой.

*Парафіяне з Ліпнішкаў*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Анатолю Захарэўскаму з нагоды Велікодных свят ад усяго сэрца жадаем: няхай уваскрослы Хрыстос адорвае Вас сваімі ласкамі і добрым здароўем на доўгія гады жыцця, Найсвяцейшая Панна Марыя нястомна Вамі апекуецца, Святы Дух спасылае свае шчодрыя дары, а побач будуць толькі добрыя і зычлівыя людзі.

*Парафіяне з Міхалішкаў*

Паважанаму Айцу Пробашчу Андрэю Шчупалу з нагоды Дня святара і Велікодных свят складаем свае сардэчныя пажаданні. Заставайцеся верным і мудрым душпастарам, не стамляйцеся абвяшчаць Евангелле сваімі словамі і жыццём, вядзіце нас за сабой да Пана, а мы Вас падтрымаем у складаных хвілінах і будзем прасіць у Пана ад усіх ласках для Вас. Хрыстос Уваскрос! Сапраўды Уваскрос!

*Удзячныя парафіяне з Новай Руды*

Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Адамовічу з нагоды свят Уваскрасення Пана жадаем мноства ласкаў ад Уваскрослага, сіл і цярплівасці на жыццёвым шляху, моцнага здароўя, шчасця, душэўнага супакою, а таксама нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці і шчодрых дароў Святога Духа на кожны дзень. Хрыстос Уваскрос! Алелюя!

*Вернікі з пар. Божай Міласэрнасці ў Доцішках*

Паважанаму Ксяндзу Яўгену Барысюку з нагоды Велікодных свят складаем найлепшыя пажаданні. Няхай кожны Ваш дзень будзе напоўнены супакоем, вочы ззяюць ад шчасця, а з твару не сыходзіць радасная ўсмешка. Няхай Добрая Навіна аб уваскрасенні Божага Сына ўзмацняе надзею, а ўсе, хто побач з Вамі, падтрымліваюць Вас і дапамагаюць у дарозе да святасці. Дзякуем бацькам за сына святара. Шчасці Божа!

*Парафіяне з касц. у Казловічах*

Паважанаму Ксяндзу Юрыю Саковічу і Айцу Паўлу з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана перасылаем найлепшыя пажаданні ўсіх Божых ласкаў на святарскім шляху, шчодрых дароў Святога Духа і штодзённай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Жадаем моцнага здароўя на доўгія гады ў пачэснай службе Богу і людзям. Няхай уваскрослы Хрыстос заўсёды апекуецца Вамі.

*З малітвай і ўдзячнасцю парафіяне з Карэлічаў і Варончы*

Паважаным Айцам: Пробашчу Дзмітрыю Лабкову, Юзафу Гэнзу, Андрэю Урублеўскаму, Валерыю Мазюку, Віктару Бохану, Эдуарду Пяцельчыцу, Вітольду Пяцельчыцу і Станіславу Станеўскаму з нагоды Дня святара і Велікодных свят ад усяго сэрца жадаем Божага благаслаўлення, усіх ласкаў ад уваскрослага Хрыста, дароў Святога Духа на кожны дзень святарскай паслугі, а таксама доўгіх гадоў жыцця ў здароўі.

*III Ордэн св. Францішка з пар. Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне*

● працяг на с. 8

# Ад шчырага сэрца

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Ёдзіку з нагоды Велікодных свят і Дня святара складаем самыя найлепшыя пажаданні моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, душэўнага супакою, штодзённай радасці, моцнай непахіснай веры, рэалізацыі ўсіх планаў і намераў. Няхай Езус, якога Вы кожны дзень трымаеце ў сваіх руках, блаславяе Вас на святарскім шляху, а Маці Божая, якая даручае свайго Сына ў Вашыя рукі, няхай абараняе мацярынскай любоўю і ахінае сваёй апекай. Жадаем Вам стойка і ўпэўнена ісці па выбраным жыццёвым шляху, служачы Богу і людзям. Дзякуем за прыгожыя павучальныя казанні, цеплыню і дабрыню Вашага сэрца.

*З павагай парафіяне з Цудзенішкаў*

Паважанаму Ксяндзу Паўлу Стволу з нагоды свят Уваскрасення Пана і Дня святара складаем букет найлепшых пажаданняў: апекі Найсвяцейшай Марыі Панны, Божага блаславення, моцнага здароўя, спакойных дзён, каб кожная хвіліна была сонечнай, радаснай і шчаслівай. Няхай Ваша высакароднае пакліканне прыносіць задавальненне ад выбару складанай і адказнай жыццёвай дарогі.

*Былыя парафіяне з Цудзенішкаў*

Паважанаму Айцу Мар'яну Хаменю з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, сіл на кожны дзень жыцця і душпастарскай працы, радасці ў сэрцы, супакою ў душы, а таксама добрых і зычлівых людзей навокал. Няхай св. Заступнік нястомна Вамі апекуецца, а Маці Божая моцна трымае за руку і вядзе за свайго Найсвяцейшага Сына.

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Шылавічаў*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Валерыю Шэйгеровічу з нагоды Дня святара ад усяго сэрца жадаем шмат радасці ў святарскай паслузе на кожны дзень, сіл для рэалізацыі ўсіх планаў і намераў, а таксама добразычлівых людзей побач, гатовых заўсёды прыйсці на дапамогу. Няхай добры Бог адорвае Вас здароўем, радасцю і цярплівасцю.

*З малітвай і павагай парафіяне са Свіслачы*

Паважаным Ксяндзам: Алегу Жураўскаму, Здзіславу Вэдэру і Станіславу Краўчанку з нагоды Велікодных свят жадаем шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень жыцця, сталай дапамогі Найсвяцейшай Панны Марыі, а таксама моцнага здароўя, душэўнага супакою і нястомнасці ў абвяшчэнні Евангелля словам і жыццём.

*Моладзь, дзеці, парафіяне з касц. св. Міхала Арханёла ў Смаргоні*

Паважанаму Ксяндзу Антонію Казлоўскаму з нагоды Велікодных свят жадаю моцнага здароўя, душэўнага супакою, штодзённай радасці, мноства Божых ласкаў на кожны дзень і людской добразычлівасці. Няхай уваскрослы Хрыстос заўсёды і ва ўсім Вам дапамагае, а Святы Дух адорвае сваімі ласкамі.

*Здзіслаў са Смаргоні*

Паважанага Ксяндза Віктара Захарэўскага ад усяго сэрца віншуем з Днём святара і Велікоднымі святамі. Няхай усемагутны Бог дапамагае Вам у ажыццяўленні планаў, а Маці Божая нястомна моліцца за Вас перад Божым тронам, ахінае сваёй апекай, адорвае ласкай, любоўю і радасцю, з пяшчотай прытуляе да свайго сэрца. Няхай Бог адорвае Вашых бацькоў патрэбнымі ласкамі і моцай сваёй любові на доўгія гады. Хрыстос Уваскрос! Алелюя!

*З малітвай удзячныя парафіяне з Раготна*

Шаноўныя Сёстры Марыя Стасевіч і Ганна Насевіч! З нагоды Велікодных свят жадаем Вам заўсёды адчуваць удзячнасць ад людзей за Вашу паслугу. Няхай усемагутны Бог адорвае Вас сваімі ласкамі, а Маці Божая – цеплынёй свайго сэрца. Хрыстос Уваскрос! Алелюя!

*Сям'я Анацка з Раготна*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Рэйшалю з нагоды Дня святара і Велікодных свят складаем мноства сардэчных пажаданняў моцнага здароўя, шчасця, аптымізму ў кожнай складанай сітуацыі, а таксама моцнай надзеі і любові, якія выплываюць з пустой магілы Пана. Няхай кожны Ваш дзень будзе асветлены Божай ласкай і міласэрнасцю, а побач будуць добразычлівыя людзі.

*Парафіяне з Жалудка*

Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму з нагоды Дня святара і Велікодных свят ад усяго сэрца жадаем шчодрых Божых ласкаў. Няхай уваскрослы Хрыстос адорвае Вас сваім блаславеннем, Маці Божая атуляе плашчом мацярынскай апекі, а Святы Дух спасылае на Вас свае шчодрыя дары. Няхай кожны дзень мінае ў здароўі і радасці, а дарога да Пана будзе лёгкай і прыгожай. Хрыстос Уваскрос! Алелюя!

*Парафіяне з Капцёўкі*

Паважанаму Ксяндзу Яўгену Барысюку з нагоды Дня святара і Велікодных свят складаем шчырыя пажаданні моцнага здароўя, поспехаў у працы, нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, шчодрых Божых ласкаў і ўсіх дароў Святога Духа. Ад усяго сэрца дзякуем Вам за супольную малітву. Няхай міласэрны Бог блаславяе кожны дзень Вашай святарскай паслугі.

*Вернікі з Торфабрыкетнага*

Шаноўныя Сібіракі! Радасных Велікодных свят, напоўненых надзеяй вясны, што абуджаецца да жыцця! Душэўнага супакою і радасці ў сэрцы ад уваскрасення Хрыста, а таксама смачнага велікоднага яйка ў коле блізкіх Вам людзей

*жадае ад усяго сэрца старшыня Галіна Якалцэвіч*

Паважанаму Ксяндзу Андрэю Радзевічу з нагоды Велікодных свят ад шчырага сэрца жадаем нястомных ласкаў ад уваскрослага Пана, цеплыні і дабрыні ад людзей навокал, апекі Маці Божай і шчаслівага перажывання кожнага дня ў душпастарскай паслузе. Няхай добры Бог Вас заўсёды блаславяе! Хрыстос Уваскрос!

*З павагай Сібіракі*

Паважаным Ксяндзам: Антонію Філіпчыку, Паўлу Эйсманту і Дзмітрыю Леўчыку з нагоды свят Уваскрасення Пана жадаем шмат здароўя, душэўнага супакою, радасці на кожны дзень. Няхай Езус Хрыстус заўсёды і ва ўсім Вас блаславяе, Маці Божая Нястомнай Дапамогі чувае над Вамі, а Святы Дух шчодра ўзнагароджвае сваімі дарамі.

*Ружанцовае кола МБ Нястомнай Дапамогі з пар. св. Вацлава ў Ваўкавыску*

Паважанаму Ксяндзу Міхалу Васількевічу з нагоды свят Уваскрасення Пана жадаем шмат здароўя, шчасця, добразычлівых людзей на святарскім шляху. Няхай Езус Хрыстус дасць Вам шмат здароўя, а Маці Божая будзе Вашым праваднікам на працягу ўсяго жыцця.

*"Маргарытка" з пар. св. Вацлава ў Ваўкавыску*

Паважанаму Ксяндзу Вячаславу Матукевічу з нагоды Дня святара перасылаем мноства сардэчных пажаданняў. Няхай Вашае жыццё будзе напоўнена толькі добрымі справамі, Бог Айцец адорвае добрым здароўем, Святы Дух падтрымлівае Вашу душу і цела і дапамагае ў служэнні і ў жыцці, а Езус Хрыстус і Яго Найсвяцейшая Маці апраменьваюць бязмежнай любоўю і асвячаюць кожны дзень Вашага жыцця. Дзякуем бацькам за сына святара.

*Парафіяне з в. Лелюкі*

Паважаным Айцам: Пробашчу Вальдэмару Слоту, Андрэю Ядкоўскаму, Сястры Антаніне з нагоды Велікодных свят ад усяго сэрца жадаем бязмежных Божых ласкаў на кожны дзень жыцця, моцнага здароўя, нястомнасці ў набліжэнні людзей да Бога, а таксама непахіснай веры і нязломнай надзеі ў сэрцы. Няхай уваскрослы Хрыстос блаславяе кожны Ваш дзень!

*Апостальства дапамогі чыстцовым душам з пар. Вялікая Бераставіца*

Дзякую Богу за 50 гадоў шлюбу Яна і Тэрэзы Турлай. Таксама хачу выказаць сваю бязмежную ўдзячнасць Ксяндзу Дзекану Яну Пузыну, Ксяндзам Вікарыям ашмянскай парафіі і Ксяндзу Валерыю Быкоўскаму, якія разам з намі дзякавалі Богу за мноства Яго ласкаў і маліліся за нашу сям'ю.

*Тэрэза Турлай*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Пузыну перасылаю сваю сардэчную ўдзячнасць за арганізацыю і правядзенне пахавальнай урачыстасці майго мужа с.п. Яна Турлая. Дзякуй Вам за ўсю дабрыню і вялікую зычлівасць, якую Вы аказвалі нашай сям'і на працягу доўгіх гадоў служэння майго мужа ў ашмянскім касцёле. Дзякую ўсім святарам, якія маліліся разам з намі. Сваю сардэчную ўдзячнасць я выражаю ў штодзённай малітве.

*Тэрэза Турлай*

Паважаны Ксёндз Пробашч Павел Салабуда! З нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем Вам, каб добры Бог узнагародзіў Вас за руплівую працу ў нашай парафіі, Панна Марыя дапамагала ва ўсіх пачынаннях, уваскрослы Хрыстос напаўняў сэрца любоўю, а святарскі шлях быў асвечаны промнямі Божай міласэрнасці.

*Вернікі з пар. Святога Духа*

Шаноўнаму ксяндзу Здзіславу Пікулу з нагоды свят Уваскрасення Пана перасылаем сардэчныя віншаванні. Жадаем моцнай веры, нязгаснай надзеі і трывалай любові да Пана Бога і бліжняга. Няхай уваскрослы Хрыстос дапамагае Вам кожны дзень у святарскай паслузе, будзе сапраўднай дарогай, праўдай і жыццём для Вас. Дзякуем за адданую працу ў нашай парафіі, а таксама за малітву і кожнае добрае слова!

*З выразамі ўдзячнасці парафіяне і моладзь з Дзятлава*

Паважанаму Ксяндзу Віктару Захарэўскаму з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, сілы і стойкасці ў душпастарскай працы. Няхай добры Бог, які паклікаў Вас да святарства, узнагароджвае Вас, а Маці Божая і Анёл-ахоўнік апекуюцца Вамі кожны дзень. Жадаем шмат сонечнай цеплыні і дабрыні ад людзей. Няхай з Вашага твару ніколі не знікае шчаслівая ўсмешка. Мы ўдзячны Вам за тое, што Вы з намі.

*Парафіяне з капл. Данілавічы*

Паважанаму Ксяндзу Яцэку Маркелю з нагоды Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні Божых ласкаў, апекі Маці Божай, здароўя і плённай душпастарскай працы. Дзякуем Вам за адданае служэнне Богу і людзям, мудрыя парады і шчырую ўсмешку.

*Былыя парафіяне з Зэльвы сем'і Трубей і Раманчук*

Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Баклажцу з нагоды Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні Божых ласкаў, апекі Маці Божай, здароўя і плённай душпастарскай працы. Дзякуем Вам за шчырую і адданую святарскую працу. Таксама ад усяго сэрца дзякуем шаноўным Сёстрам Ярдане і Марыне. Жадаем моцнага здароўя, цярплівасці і блаславення ад уваскрослага Хрыста на кожны дзень жыцця і паслугі.

*Сям'я Саўко з в. Вейшычы*

Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Баклажцу з нагоды Велікодных свят жадаем усіх Божых ласкаў, апекі Маці Божай, шчодрых дароў Святога Духа, моцнага здароўя і поспехаў у душпастарскай працы. Дзякуем Вам за абвяшчэнне Божага слова і жадаем далей з даверам крочыць па дарозе Хрыстовага святарства.

*Занеўская Ірэна разам з сям'ёй*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Стволу з нагоды Велікодных свят ад шчырага сэрца жадаем усяго самага найлепшага: моцнага здароўя, штодзённай радасці, душэўнага супакою, рэалізацыі ўсіх планаў і намераў, а таксама добразычлівых людзей на жыццёвым шляху і поспехаў у душпастарскай працы. Няхай Маці Божая апекуецца Вамі кожны дзень, а ўсемагутны Бог адкрывае свае далоні для Вас і шчодра блаславяе.

*Парафіяльная рада і парафіяне з Рэплі*

Паважаным Ксяндзам Яну Сарэлу і Леону Лішыку з нагоды Дня святара і Велікодных свят ад усяго сэрца жадаем шчодрых ласкаў ад уваскрослага Збаўцы, апекі і мацярынскай пяшчоты ад Яго Маці, верных і зычлівых людзей побач, моцы і цярплівасці ў выкананні святарскай паслугі, а таксама ўсяго найлепшага! Хрыстос Уваскрос! Алелюя!

*Верныя парафіяне з Волпы*

Паважанаму Ксяндзу Юрыю Саковічу з нагоды Дня нараджэння, Імянін і Велікодных свят ад шчырага сэрца жадаем усяго найлепшага. Няхай кожны Ваш дзень будзе напоўнены цеплынёй, радасцю, любоўю, шчасцем, святлом Святога Духа і ўсімі ласкамі ад уваскрослага Хрыста. Няхай св. Заступнік нястомна Вамі апекуецца і ўзносіць свае малітвы да Божага трону.

*Хрэснік Канстанцін разам з бацькамі*

Паважанаму Айцу Андрэю Шчупалу з нагоды Велікодных свят складаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай здароўе будзе моцным, шчасце абсалютным, у душы пануе супакой, на твары заўсёды госціць усмешка і рэалізуюцца ўсе планы. Хрыстос Уваскрос!

*Сям'я Заяц*

Паважанаму Ксяндзу Юрыю Марціновічу з нагоды Імянін прагнем скласці самыя сардэчныя пажаданні Божага блаславення на кожны дзень святарскай паслугі і добразычлівых людзей побач, гатовых заўсёды прыйсці на дапамогу. Няхай добры Бог адорвае Вас здароўем, мудрасцю, чулым сэрцам і заўсёды дапамагае несці Езуса людзям, а Святы Дух няхай напаўняе Вас сваёй моцай і ўсімі ласкамі.

*Касцёльны камітэт і парафіяне з Геранёнаў*

Паважаным Ксяндзам Яну Асіповічу і Андрэю Агелю з нагоды Дня святара і Велікодных свят складаем букет сардэчных пажаданняў: здароўя і энергіі на многія гады жыцця, каб непрыемнасці, якія сустракаюцца на Вашым шляху, ніколі не знеахвочвалі Вас, а толькі ўзмацнялі і вялі да святасці. А калі ўсё ж адчуеце стомленасць ад цяжару абавязкаў, няхай Вашым адпачынкам стане табернакулюм, жыццём – Эўхарыстыя, багаццем – Крыж, Вашай Маці – Марыя, а надзеяй – Неба! Шчасці Вам Божа!

*Удзячныя вернікі з пар. Ліда-Індустрыяльны*

Паважанаму Ксяндзу Віктару Ханько з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Святы Дух апраменьвае сваім святлом кожны дзень Вашай святарскай паслугі, Маці Божая няхай ахінае сваім мацярынскім плашчом, а св. Заступнік заўсёды апекуецца і моцна трымае за руку, суправаджаючы Вас па жыцці. Няхай Ваша паслуга прыносіць шчодры плён на ніве Пана.

*Удзячныя вернікі*

Паважанаму Ксяндзу Юрыю Федуку з нагоды Велікодных свят і Імянін жадаем моцнага здароўя, сіл і добрых людзей на душпастарскім шляху, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Заступніка. Няхай святло Хрыста асвячае Ваш святарскі шлях. Алелюя!

*Удзячныя парафіяне з Ражанкі*

Паважанаму Ксяндзу Юрыю Ігнатовічу з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем самыя сардэчныя пажаданні моцнага здароўя і радасці на кожны дзень. Няхай св. Заступнік штодзённа Вам спадарожнічае ў дарозе да святасці і да людскіх сэрцаў, усемагутны Бог няхай ахінае Вас сваім блаславеннем, Маці Божая нястомна Вамі апекуецца, прытуляе да сябе, абараняе ад усякага зла і блаславяе Вашу душпастарскую працу, а Анёл-ахоўнік няхай асцерагае заўсёды і ўсюды на працягу ўсяго жыцця.

*Удзячныя вернікі*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Ёдзіку з нагоды Імянін ад усяго сэрца складаем найлепшыя пажаданні. Няхай Ваш св. Заступнік заўсёды апекуецца Вамі і вядзе па жыцці, трымаючы за руку. Жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, сіл і цярплівасці на кожны дзень святарскай паслугі, шчодрых дароў Святога Духа, апекі Маці Божай. Няхай кожная хвіліна Вашага жыцця будзе радаснай, сонечнай і шчаслівай. Заставайцеся заўсёды такім жа актыўным, энергічным, сардэчным і дыпламатычным.

*Парафіяне з Цудзенішкаў*

Паважанаму Ксяндзу Юрыю Барташэвічу з нагоды Імянін жадаем усіх дароў Святога Духа, супакою ў сэрцы, суцяшэння ў смутку і апекі Маці Божай Вастрабрамскай.

*"Маргарытка" і парафіяне з Беняконяў*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Мар'яну Хаменю з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя, сілы і стойкасці ў нялёгкай святарскай працы. Няхай Ваш шлях асвячаюць промні Божай міласэрнасці, Маці Божая Нястомнай Дапамогі будзе Вашай заступніцай кожны дзень, а Святы Дух вядзе па дарогах шчасця і здароўя.

*З малітвай вернікі з пар. Шылавічы*

Паважанаму Айцу Юрыю Саковічу з нагоды Імянін і Дня нараджэння перасылаем букет самых шчырых пажаданняў моцнага здароўя, шчасця, радасці, доўгіх гадоў жыцця і доўгага служэння ў нашай парафіі. Няхай св. Заступнік няспынна моліцца за Вас перад Божым тронам і абараняе ад небяспекі. Няхай Вашыя мары заўсёды здзяйсняюцца, а ўсмешка нястомна ўпрыгожвае Ваш твар. Няхай праца на карысць Богу і людзям прыносіць шчодры плён, міласэрны Бог блаславяе і атуляе Вас сваёй апекай, а Маці Божая асвятляе промнямі сваёй любові. Няхай Бог аддзячыць Вашай маме за такога сына.

*З малітвай і ўдзячнасцю парафіяне з Карэлічаў і Варончы*

Паважаны Ксёндз Віктар Захарэўскі! З нагоды Вашага Дня нараджэння складаем нізкі паклон і словы сардэчнай удзячнасці Пану Богу за дар жыцця і талент, якімі Ён Вас шчодра адарыў праз Вашых шаноўных бацькоў. Жадаем здароўя, шчасця, якое плыве з Божага абрання, шчодрых Божых ласкаў, веры і надзеі ў Богу. Жадаем, каб любоў, якая з'яўляецца сувяззю ўсяго і яднае людскія сэрцы, увесь час спадарожнічала Вам, асабліва ў будаванні сувязі паміж душпастарам і вернікамі. Мы са свайго боку ахінаем Вас сваёй малітвай, каб Бог блаславяў Вас і нястомна ўзмацняў сваёй ласкай і супакоем.

*Вернікі з пар. св. Анёлаў-ахоўнікаў у Раготне*

Пайшла з жыцця мама Ванда. Перасылаю родным і блізкім памерлай словы шчырага спачування і жалю, спалучаныя з малітвай.

*Дачка Ірэна Занеўская*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Павел Салабуда;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** кс. Ян Раманоўскі, Юрый Лаўыш, Алена Гальчэня; тэл. **152/ 756438**; e-mail: **slowozycia@mail.grodno.by; http://www.slowo.grodnensis.by;**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 2264; тыраж 6600; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная